


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 4 (283) САКАВІК 2020 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Калі ты з панам не ў ладу, трымайся лепш за грамаду*

*Якуб Колас*

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## КРОЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ ШЛЯХАМ ДА ПРАЎДЫ

**Апошнюю чвэрць стагоддзя Беларусь жыве ў атачэнні хлусні, якая пачалася з жадання кіраўніка краіны ня вясці Беларусь за цывілізаваным светам, а весці ў накірунку развітання з роднай мовай і пазбаўлення нацыянальных гістарычных сімвалаў. Менавіта цывілізаваны свет жыве паводле агульначалавечых каштоўнасцяў, па прынцыпах прававой дзяржавы, а мы ўсё глыбей вязнем у савецкім мінулым, «кіруючыся» паняццямі аднаго чалавека.**

І трэба аддаць належнае імпэту наша першага прэзідэнта, што ён даволі далёка адвёў Беларусь ад стандартаў цывілізаванага свету. Маладое пакаленне беларусаў ўжо і не памятае, як гэта чуць прамыя трансляцыі з залы пасяджэнняў заканадаўчага органа краіны. Маладое пакаленне ужо не ведае, што гэта такое парламенцкая апазіцыя. Маладое пакаленне ужо і не памятае, што магчыма не быць у піянерыі і БРСМ. Шмат чаго яно ня ведае...

А наша краіна ўжо і не ведае, што такое свабодныя і адкрытыя выбары, калі магчыма пабачыць кожны бюлетэнь і пералічыць галасы па бюлетэнях. Краіна не памятае, што такое рэальнае мясцовае самакіраванне, бо кіраўнікі адміністрацый прызначаюцца, а не абіраюцца насельніцтвам і іх дзейнасць не падкантрольна грамадству. Краіна у рэшце-рэшт прызвычаілася жыць не па нормах права, а па паняццях аднаго чалавека, калі знікла незалежная судовая улада. Падобных адрозненняў Беларусі ад цывілізаваных краінаў процьма.

Але не ўсё так саўкова ў нас. Вось зараз у ЗША адбыўся супераўторак, калі ў Дэмакратычнай партыі ЗША змяніўся лідэр кандыдатскай гонкі за пасаду прэзідэнта. А на Беларусі некалькі дэмакратычных структур распачанаюць з 6 сакавіка з нашага Гарадка праймерыз у сваім абмежаваным асяроддзі.

Пры гэтым вядучы на аналітычным парталу, быццам бы не ведаюць азначэнне праймерыз, сцвярджаюць, што ён пачнецца на Віцебшчыне. І гэтым, як кажуць, льюць бальзам на душы нашых тутэйшых кіраўнікоў АГП, якія з гэтым словам на вуснах, яшчэ з нулявых гадоў імкнуліся арганізаваць праймерыз у сваёй партыі. Але ж правалілася цэ працэдура ў тых нулявых.

Толькі праймерыз сапраўды гэта УНУТРЫПАРТЫЙНАЕ выяўленне мацнейшага кандыдата для нацыянальных выбараў. А у нас аж пяць партыйных і грамадскіх структур, якія да гэтага часу сябе нават кааліцыяй не называюць і простае галасаванне сваіх прыхільнікаў называюць гучным імя — праймерыз.

Праўда не усе ініцыятыры гэтай дзеі — галасавання прыхільнікаў — называюць гэтую джэю праймерыз. Канкурэнтам у гэтым апазіцыйным асяродку амерыканскаму слову выступае наша тутэйшае — народнае галасаванне. Народнае галасаванне ў паліталогіі называецца рэферэндумам, які можа быць нацыянальным або мясцовым, але як кажуць — усеагульным. А назваць галасаванне сваіх прыхільнікаў, кола якіх даволі абмежавана, НАРОДНЫМ ГАЛАСАВАННЕМ па першаму — не сціпла, а па другому — не дакладна.

Не меншым падманам саміх сябе з'яўляецца і ужыванне слова СІЛА ў адносінах да нашага дэмакратычнага руху, які па вялікаму рахунку ператварыўся ў дэсідэнцкі рух, рух іншадумцаў – рух людзей якія трымаюцца іншых каштоўнасцей чым улада. Гэты рух на Беларусі мае вялікі патэнцыял, бо Лукашэнка са сваім атачэннем пахрас у хлусні з дзяржаўнай прапагандай. Але калі на нашы сустрэчы прыходзіць пераважна сталае насельніцтва, якое складае ад 0,024% ад насельніцтва Віцебску да 0,114% насельніцтва Шаркаўшчыны, то казаць пра СІЛУ не трэба. Рэальнай сілай па паліталагічных ацэнках можа быць дзесьці 2% актыўных грамадзян.

Трэба мець мэту – аб'яднанне у нацыянальным руху "За праўду!" калі 1% выбаршчыкаў – значыць 60 тысяч неабыякавых грамадзян. Калі будзем любіць Лукашэнку, як саміх сябе, то выйсці на гэту лічбу магчыма, пазбягаючы памылак і працуючы штогадзінна.

Шаноўныя арганізатары! Называйце рэчы сваімі імёнамі, кажыце праўду: галасаванне прыхільнікаў дэмакратыі за лепшага кандыдата, які прадставіць найлепшую праграму пераўтварэнняў для Беларусі на 2020 год. А калі дамовіцеся пра кааліцыю, саюз, хаўрус з пэўнай платформай і назвай, напрыклад «За праўду», «За адзінства» ці «За новую Беларусь», ці «За свабодныя і адкрытыя выбары», ці яшчэ якой. То тады наша галасаванне з вялікай нацяжкай магчыма будзе назваць унутрыкааліцыйным праймеразам. Але зноў жа не народным галасаваннем.

Не варта апазіцыі падменьваць базывыя паняцці сваім «новаязам». Не варта капіраваць падобную практыку ўладаў, што дзейнічае паўсюдна. Таму памятайце: кажыце людзям праўду і людзі да вас пацягнуцца. Плёну!

**Леанід Гаравы**
**сябар ЦРК БСДП**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ЗДАРОЎЕ

## ПАСЛУГІ БАСЕЙНА РЭЗКА ПАДАРАЖАЛІ

**З даравальнай нядзелі 1 сакавіка наведвальнікі басейна ў Гарадку даведаліся, што паслугі басейна фізкультурна-аздараўленчага комплекса па вул. Гагарына падаражэлі да 50%. Як эканоміць?**

Апошнім часам колькасць наведвальнікаў басейна ў Гарадку пастунова павялічвалася. Шчыра кажучы, кошт аднаго наведвання ў 2 рублі для пенсіянераў, сям'і з дзіцяці і дзіцяці да 14 гадоў быў прымальны для бюджэту жыхароў нашай мясцовасці. І гэта пры сярэдніх заробках, якія вельмі невысокія і набліжаны да самых малых па Беларусі.

І вось з першага дня вясны наведвальнікі басейна пенсійнага ўзросту даведаліся, што замест ранейшых 2 рублёў ім давядзецца плаціць 3 рублі. Рост паслугаў скакнуў на 50%!. Быццам бы за апошнія два гады пенсіі у грамадзян выраслі ў паўтара разы!?

Такую ж суму па 3 рублі павінны аплачваць і сем'і з дзіцяці, і дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў.

Адміністрацыя «Віцебскага абласнога цэнтра алімпійскага рэзерва» ( дырэктар — Ільля Смунёў) крыху ў меншых працэнтных памерах — на 33%, а не 50% — з 3 рублёў да 4 рублёў паднялі кошты і за гадзіну плавання для фізічных асобаў.

Як эканоміць? Ведайце, што пры наведванні басейна вашы выдаткі будуць меншыя, калі вы будзеце карыстацца адной дарожкай ад арганізацыі або прафсаюза у памеры 6-8 чалавек на працягу гадзіны. І пры гэтым вы будзеце з бюджэтнай структуры — быццам іншыя арганізацыі не плацяць падаткі?. Вам давядзецца заплаціць 20 рублёў—гэта каля трох рублёў або менш на чалавека. Калі ж вы прыдзіце паплаваць кампаніяй з арганізацыі кацельняў, газавікоў, дарожнікаў, сельгаспрадпрыемства, то ўжо трэба заплаціць 40 рублёў. Застаецца прыходзіць толькі ад прафсаюза. І не інакш!

Міжтым Канстытуцыя Беларусі дэкларуе роўнасць арганізацый усіх формаў уласнасці. Толькі ў «ВАЦАР» яе разумеюць па свойму. Як дарэчы і паўсюдна ў нашай краіне, дзе сярод розных партый ёсць больш правільныя. Толькі гэта іншая гісторыя.

Аб новых коштах у «ВАЦАР» вы можаце даведацца тут: *https://www.vocor.biz/uslugi*

**Л. Антонаў**

ПАЛІТЫКА

## ПЕРВОЕ ГОЛОСОВАНИЕ ЗА «ЕДИНОГО» ОТ ОППОЗИЦИИ

**Кандидаты на «единого» от оппозиции начали свой тур по регионам. До мая они планируют проехать 56 городов, где местные жители смогут проголосовать за своего кандидата. Вояж начался 6 марта с Городка Витебской области. TUT.BY приехал в Городок, чтобы посмотреть, как проходит первая встреча желающих стать единым кандидатом в президенты от оппозиции с белорусами.**

На участие в праймериз заявки подали шесть человек: Ольга Ковалькова, Анна Канопацкая, Алексей Янукевич, Юрий Губаревич, Николай Козлов и Павел Северинец. 4 марта штаб «Народного голосования» (праймериз) исключил Анну Канопацкую из гонки.

**«Четверо, не ставшие единым, не будут выдвигаться на выборы»**

В Городке проживает около 12 тысяч человек. Встреча с кандидатами на «единого» проходила в актовом зале школы искусств. За аренду помещения кандидаты заплатили 50 рублей из общей копилки. Жителей на встречу приглашали через соцсети и местных активистов. Но пришли всего десять человек. Голосовать, правда, за кандидата могли только те, кто имеет местную прописку — бюллетени выдавали захватившим дома паспорт.

Один из руководителей штаба «Народного голосования» (праймериз) Виталий Рымашевский, выступающий на встрече модератором, предупредил, что помещение школы было снято на два часа, поэтому встреча должна пройти оперативно, но содержательно.

— Мы сегодня не просто объединились как пять-шесть политических сил, мы приняли решение, что вместе идем к победе. То есть после того как одного из этих человек выберут единым, все будут работать на его успех. Остальные четверо взяли на себя обязательство не выдвигаться в качестве независимого кандидата на президентских выборах и поддерживать единого кандидата от оппозиции, — пояснил Рымашевский.

Первым перед жителями Городка выступил Павел Северинец. Он немного рассказал о себе: инженер-геолог, журналист и писатель, шесть лет отсидевший «по политическим мотивам». Политик заявил, что за последние шесть лет количество жителей Беларуси значительно сократилось, а экономика пришла в упадок. Северинец обозначил проблемные вопросы: низкие пенсии, отток кадров в Россию, отсутствие рабочих

***(працяг на стар. 2)***

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ПАЛІТЫКА

*(пачатак на стар. 1)*
мест в Беларуси, отсутствие белорусскоязычного университета. Решение всех проблем, по мнению политика, — в смене власти.

— Свабоду не даюць проста так, яе трэба заваяваць. Мы гатовыя пачынаць масавыя мірныя акцыі пратэсту ў малых гарадах, калі Лукашэнка будзе балатавацца на выбарах. Лукашэнка павінен сысці, Ярмошына ў ЦВК нам не патрэбная. Калі будуць нас разганяць ці не зарэгіструюць адзінага кандыдата, мы пачнём байкот. Агульны нацыянальны байкот можа скончыцца нацыянальнай забастоўкай. Давайце дружна возьмемся, каб мы змаглі сказаць: верым, можам, пераможам. Жыве Беларусь!

Руководитель «За Свободу» Юрий Губаревич тоже рассказал свою биографию и отметил, что знает, как изменить ситуацию в стране.

— Для нас арыентыр — заходняя дэмакратыя, гэта арыентыр, як будаваць краіну. А ці рэальна змяніць нешта? 25 гадоў мы топчымся на месцы. Я веру, што гэта магчыма. Людзям патрэбна альтэрнатыва, калі людзі пабачаць, што мільёны па ўсей Беларусі хочуць пераменаў, яны таксама паверацъ у гэта. Я гатоў за гэта ўзяць адказнасць.

Николай Козлов от ОГП сразу признался, что политический опыт у него небольшой.

— Но зато с амбициями у меня все в порядке, — заявил Козлов. Он рассказал о своей службе в горячих точках и 17 годах службы в уголовном розыске. — На чем сегодня стоит Лукашенко? Лукашенко стоит на коррупции, которая пронизала всю вертикаль. Что такое Дрозды? Это коррупция, это покупка чиновников президентом. Заработать на такие блага сами чиновники не могут. В этой сфере — коррупции — я профессионал, я раскрыл не одно коррупционного преступление. Но что может один человек? Ровным счетом ничего, поэтому за мной большая профессиональная команда, которой нет ни у одной политической структуры. У нас есть возможность и все специалисты, чтобы решить все сложные вопросы, которые есть в нашей стране: проблему с рабочими местами, с медициной. Мы можем решить эти проблемы, давайте объединяться.

Алексей Янукевич от Партии БНФ заявил, что у него нет стратегии победы и замены Лукашенко в 2020-м году. Но он уверен, что эти выборы будут важными.

— У свядомасці нашых суайчыннікаў ёсць толькі адна альтэрнатыва Лукашэнку — гэта Пуцін, гэта Масква. І нам трэба на гэтых выбарах сцвердзіць, што іншая альтэрнатыва ёсць, што ў нас ёсць сіла, якая можа перамагчы Лукашэнку, сіла, якой можна давяраць, і гэтая сіла — нацыянальная апазіцыя Беларусі, - заявил Янукевич.

— Я перакананы, што перамогу не ў 2020-м, але неўзабаве мы абавязкова атрымаем. Нацыянальная рэканкіста пачынаецца сёння тут, у Гарадку. Жыве Беларусь!

Ольга Ковалькова в своем выступлении отметила, что она самый молодой кандидат на «единого» — ей 36 лет. Ковалькова считает, что для изменения ситуации с выборами, людям необходимо стать членами избирательных комиссий.

— Лукашэнка — гэта не нешта вялікае, гэта звычайны чалавек, проста за 25 год ён нас усіх запужаў. Але калі мне кажуць, што няма альтэрнатывы Лукашэнке, я задаю пытанне: а што ён зрабіў за 25 год? Можа, у сельскай гаспадарцы нешта добрае? Ці з эканомікай? Не, усё стала толькі горш. Таму я не разумею, навошта чакаць прыхода да ўлады, калі нешта можна рабіць ужо сёння.

Вопросов от собравшихся кандидатам было немного. Часть из них задали активисты политических партий — члены штаба «Народного голосования», часть местные жители. На них отвечал каждый кандидат, мы выбрали самые, на наш взгляд, интересные ответы.

**Не занимаются ли кандидаты на «единого» популизмом?**

Юрий Губаревич: Думаю, што не. На хвалі папулізму прыйшоў Лукашэнка: ён даваў абяцанні, якія нельга выканаць, відавочна, што ён гэтага і зараз не робіць. Але народ хвалююць пытанні, на якія я маю адказ: што рабіць з нізкай якасцю медыцыны? Як можна ва ўмовах, калі табе пагражае прызыў у войска, скончыць адукацыю? Але калі людзі пабачуць альтэрнатыву, якая дасць ім адказы на іх пытанні, мы зможам нешта зрабіць. Калі мы будзем паўтараць «Далой Лукашэнку», мы будзем і далей таптацца на месцы.

**Что будет, если Лукашенко останется еще на пять лет?**

Ольга Ковалькова: Я вам скажу шчыра, мы не ведаем, як будзе, але лёгка не будзе — гэта дакладна. Таму, хто прыйдзе пасля Лукашэнкі, застануцца бязмежныя крыдыты, якія мы набралі, мы не ведаем, ёсць лі ў нас ЗВР, ці яны толькі на паперах тыя грошы, аб якіх ён кажа. Але калі дэмакраты прыйдуць да ўлады, будзе свет у канцы, мы будзем бачыць, што будуем краіну на падмурках дэмакратыі.

Встреча кандидатов с народом закончилась голосованием: в прозрачную урну свои бюллетени опустили восемь зарегистрированных в Городке жителей. За Юрия Губаревича проголосовало 4 человека, за Павла Северинца — трое, за Алексея Янукевича — один.

*(скарочана)*

**Елена Толкачева**
**TUT.BY**

ГАНДАЛЬ

# БЛАГОТВОРИТЕЛЬНАЯ АКЦИЯ НОВОГО МАГАЗИНА

**В Городке открылся магазин «1000 мелочей» и стартовала акция «Новая жизнь в обмен на крышечки».**

4 марта в предверии женского праздника в Городке по ул. К.Маркса открылся новый магазин «1000 мелочей». Одновременно с этим стартовала акция «Новая жизнь в обмен на крышечки»

Новый магазин в череде самых разнообразных новых магазинов в нашем райцентре имеет широкую профильность товаров разнообразной направленности. Это и детские игрушки, и постельные принадлежности, и посуда, и электротовары, и ...

Достаточно посмотреть на компановку товаров в трёх частях магазина, который занимает бывшую квартиру в доме по ул. К.Маркса д. 89.

Отличительной особенностью этого магазина в Городке является участие его в общенациональной акции «Новая жизнь в обмен на крышечки». Для этого около магазина установлен контейнер в форме сердца. В этот контейнер граждане могут приносить пластмассовые крышечки, которые потом продаются на переработку, а полученнные деньги идут на помощь больным детям и взрослым.

Организаторы этого проекта так описали его суть: *«В Республике Беларусь более 565 тысяч детей и взрослых имеют инвалидность, на лечение и реабилитацию которых не хватает государственного финансирования, при этом ежегодно в стране на свалках образуется более 4 000 тонн пластиковых крышек от бутылок из-под напитков, бытовых парфюмерии и химии, стоимость которых составляет около 800 000 $.*

*У нас есть решение! Мы намерены реализовать социально значимый проект с экологической составляющей, в рамках которого:*

*Собирать пластиковые крышки в специальные контейнеры, установленные в торговых и иных объектах.*

*Передавать вторсырьё перерабатывающим предприятиям на платной основе.*

*Оказывать помощь больным детям и взрослым за счет средств, полученных от продажи вторсырья (приобретение медикаментов, мединвентаря и медоборудования).»* https://m.vk.com/krysthariki

И стоит отметить, что этот проект первым в райцентре стал реализовывать один из ведущих предпринимателей Городка Дмитрий Захаров.

Кто еще Городке и на районе последует его примеру в экологически полезной и социально значимой деятельности? Как там думает «Евроопт», «СмолСити» и т.д.? Продолжите акцию «Новая жизнь в обмен на крышечки»?

**Леонид Горовой**

СТАТЫСТЫКА

# ЖАНЧЫНЫ БОЛЬШ АДУКАВАНЫЯ

**Жанчыны Віцебскай вобласьці маюць больш высокі ўзровень адукацыі, чым мужчыны, паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленьне Віцебскай вобласьці.**

Паводле статыстычнага ўпраўленьня, сярод занятых жанчын 34% маюць вышэйшую адукацыю (мужчыны — 23%), 31% — сярэдне-спэцыяльную адукацыю (мужчыны — 21%).

Колькасьць жанчын Віцебскай вобласьці, паводле дадзеных перапісу насельніцтва, складае 614,7 тыс. чалавек (54,1% ад агульнай колькасьці).

У сярэднім на Віцебшчыне на 1000 мужчын прыпадае 1180 жанчын.

**Яшчэ 5 лічбаў пра жанчын**

Найбольшы адсотак жанчын працуе ў сфэры аховы здароўя і сацыяльнага абслугоўваньня. У гэтай сфэры яны складаюць 85,4% працаўнікоў (у адукацыі — 81,2%, а напрыклад, у будаўніцтве — усяго 18,9%).

Сярэднестатыстычная жанчына Віцебскай вобласьці бярэ шлюб ва ўзросьце 26,2 гады (паўторны шлюб — 38,5 гады).

У 2019 годзе 4,4 тыс. жанчын скасавалі свой шлюб. 450 жанчын мелі на момант разводу менш за 25 гадоў.

У 2019 годзе ўзялі шлюб 140 жанчын, старэйшых за 60 гадоў.

Летась 9,5 тыс. жанчын сталі мамамі. Сярэдні век нараджэньня першага дзіцяці складае зараз 26,5 гадоў.

«Дасягненьне гендэрнай роўнасьці і пашырэньне правоў і магчымасьцяў жанчын і дзяўчынак ёсьць неад'емнай часткай прынятай у 2015 годзе дзяржавамі — сябрамі ААН Парадка дня ў сфэры ўстойлівага разьвіцьця на пэрыяд да 2030 году», — паведамляе Галоўнае статупраўленьне Віцебшчыны.

**Зьміцер Міраш**

КУЛЬТУРА

# ВЫСТАВА ВЯЛІКАГА ВІЦЕБСКАГА АКВАРЭЛІСТА

**28-га лютага ў Гарадоцкім раённым краязнаўчым музеі адбылося адкрыццё выставы акварэльнага жывапісу мастака Фелікса Фёдаравіча Гумэна «Кветкавы вернісаж». Першымі наведвальнікамі выставы сталі нашы таленавітыя дзеці са школы мастацтваў і цэнтра дзяцей і моладзі горада Гарадка.**

Юныя таленты былі ўражаныя творчасцю знакамітага віцебскага мастака. У рамках адкрыцця выставы быў арганізаваны майстар-клас ад маладога мастака, метадыста Гарадоцкага Дома рамёстваў і фальклору Жандарэнка Аляксандра, а супрацоўнік музея Ларыса Лявонава ў інтэрактыўнай форме правяла азнаямленчы экскурс па выставе.

Напрыканцы мерапрыемства дзеці з задавальненнем дзяліліся сваімі ўражаннямі і эмоцыямі, рабілі фота з удзельнікамі выставы, фатаграфаваліся на фоне карцін.

Фелікс Фёдаравіч Гумэн — выбітная і унікальная з'ява ў беларускім і сусветным жывапісу сучаснасці, чыё імя не страціцца сярод іншых выдатных майстроў мінулага і будучыні. Ён ужо цяпер заняў сваё цвёрдае і ганаровае месца сярод лепшых.

Ф.Ф. Гумэн нарадзіўся 28 сакавіка 1941 гады ў сяле Кальцова Кумарскага раёна Амурскай вобласці, на Далёкім Усходзе, у сям'і вайскоўца-памежніка. Адсюль «качавое» жыццё сям'і савецкага афіцэра, частая змена месца жыхарства якое працягнулася на тысячы кіламетраў дзяржаўнай мяжы Савецкага Саюза. Разнастайнасць убачаных месцаў і уражанняў пакінулі, вядома, свой след ва ўспрымальнай душы будучага мастака. Вучобу ў школе Фелікс Гумен пачынаў у Маскве, а атэстат сталасці атрымаў у горадзе Ваўкавыску Гродзенскай вобласці.

У 1958 годзе паступіў, а ў 1962 годзе скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (сёння УА «Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. М. Машэрава»).

З тых часоў Фелікс Фёдаравіч аддаў значную частку свайго жыцця навучанню і выхаванню новага пакалення мастакоў. З'яўляючыся выбітнай асобай, ён прыцягвае да сябе людзей самых розных характараў і светапоглядаў, у адных выклікаючы захапленне, у іншых — неразуменне і зайздрасць. Фелікс Фёдаравіч вучыць не проста маляваць і карыстацца фарбамі, ён вучыць адносінах да мастацтва і жыцця ў цэлым: быць сумленным, адкрытым, працавітым.

Вынікам яго творчай дзейнасці сталі шматтысячныя акварэлі розных відаў, а таксама шматлікія удзелы ў персанальных мастацкіх выставах.

У гарадоцкім краязнаўчым музеі ад шырокай душы вялікага акварэліста маецца падарунак у 51 акварэль з 2017 года, калі была праведзена першая персанальная выстава вялікага акварэліста.

І зараз напярэдадні жаночага свята 8 Сакавіка дырэкцыя музея зрабіла цудоўны падарунак жанчынам Гарадка ў выглядзе выставы «Кветкавы вернісаж». Завітайце на выставу Фелікса Гумэна, каб і вас парадавалі яго цудоўныя, прыгожыя кветкі!

**Л. Антонаў**
**Паводле сайта: haradoktour.by**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСЬ У ЧАКАННІ ВЫСПЯТКА

**«Лепшае — вораг добрага». Пад такім дэвізам працаваў цэх на «Інтэграле», у якім прайшоў савецкі этап маёй працоўнай біяграфіі. Савецкі Саюз ужо хутка 30 гадоў як знік, але яго прынцыпы арганізацыі жыцця і эканомікі так і не страцілі сваёй актуальнасці.**




Калі што і змянілася, дык гэта тэрміналогія. Цяпер модна ўжываць прыметнік «эвалюцыйны». Галоўная яго вартасць — універсальнасць, таму слова можа выкарыстоўвацца для апісання любой грамадска значнай з'явы. Зразумела, калі гэта з'ява запланаваная і ажыццяўляецца зверху.

Усё, што нарадзілася знізу, самацёкам, без найвышэйшага на тое дазволу, прызнаецца рэвалюцыйным. А гэта Майдан! Гэта «каляровая» рэвалюцыя! А паколькі лепш за адзінага палітыка (АП) у рэвалюцыях у Беларусі ніхто не разбіраецца, то даю яму слова: «*Беларускі народ на сваім вопыце ўсвядоміў, што за рэвалюцыяй (усё роўна, якога яна колеру) няма ніякай сілы, акрамя цёмнай. Менавіта таму ён падтрымаў палітыку паступовых пераўтварэнняў і цвёрдых сацыяльных гарантый, мір і парадак у краіне, дысцыпліну на вытворчасці і моцную, эфектыўную ўладу. Уладу, якая здолела стварыць умовы для годнага жыцця і спакойнай працы. Гэта — выбар мудрага народа. Гэта — гістарычны выбар Беларусі*».

«Выбар мудрага народа» аформлены ў рашэннях трох канстытуцыйных рэферэндумаў і пяці Усебеларускіх народных сходаў. Каб не стамляць чытачоў, звярнуся да рэзалюцыі апошняга, пятага сходу, якая ўтрымлівае, у прыватнасці, наступны пункт: «*Заахвочванне ініцыятывы і падтрымка прадпрымальніцтва будуць спрыяць стварэнню новых працоўных месцаў, росту дабрабыту грамадзян і іх самарэалізацыі ў інтарэсах беларускага грамадства*».

Прайшло пяць гадоў. Статыстычныя штогоднікі Белстата даюць нам магчымасць ацаніць, наколькі расквітнела беларускае прадпрымальніцтва, што заахвочваецца моцнай і адначасова эфектыўнай уладай. Прасцей за ўсё гэта зрабіць з дапамогай дынамікі даходаў ад прадпрымальніцтва.

Калі ў 2000 годзе ўклад прадпрымальніцтва ў сукупныя даходы насельніцтва склаў 15,4%, то ў 2015-м — 8,2%. За чатыры наступныя гады гэты паказчык не змяніўся (інфармацыя за 2020 год, зразумела, яшчэ адсутнічае). У лідарах росту ў структуры даходаў аказаліся аплата працы (з 59,8% да 64,3%) і трансферты насельніцтву (з 19,4% да 22,8%).

Такім чынам, нацыі прадпрымальнікаў з беларусаў не атрымліваецца. Больш за тое, статыстыка дэманструе адваротны працэс. З кожным годам сярод эканамічна актыўных грамадзян расце доля тых, хто працуе «на дзядзьку», і тых, хто сілкуецца ад шчадротаў дзяржавы. Імя «дзядзькі» і адначасова галоўнага дабрадзея, што раздае народу хлеб, мяркую, усім добра вядомае.

У тых, хто знаёмы з тэорыяй і практыкай пабудовы беларускай мадэлі, такая дынаміка не павінна выклікаць здзіўленне. Яна — наша ўсё. Без яе ад донара еўрапейскай стабільнасці засталіся б адны ўспаміны.

**Каму патрэбныя такія рэформы?**

…На думку АП, галоўнай умовай для правядзення паспяховых рэформаў з'яўляецца наяўнасць стартавага капіталу. Іншымі словамі, рэформы — выбар багатых краін, беднякам жа і сераднякам лепш за ўсё стаіцца і чакаць. Вось як свой арыгінальны погляд на рэформы адзіны палітык абгрунтаваў у Пасланні–2017: «*У нас няма грошай рызыкаваць, ісці на нейкія рэформы. А раптам правалімся? У Расіі — магчыма. У Кітаі — небяспечна, у іх вялікае насельніцтва. У Амерыцы — магчыма. У Расіі — таму што вялікія рэсурсы. Памыліліся, выправілі. Таму што грошы ёсць. У Амерыцы памыліліся — надрукавалі. Увесь свет за гэта заплаціць. Вы ж разумееце. А мы чым потым дзіркі будзем закрываць? Таму я заўсёды быў акуратны і асцярожны*».

Паспяховыя рэформы пачынаюцца з адказу на пытанне: «Каму гэта трэба?» Але перш, чым на яго адказаць, неабходна дамовіцца наконт таго, што трэба разумець пад рэформамі. І тут магчымыя варыянты… Гістарычны вопыт, аднак, сведчыць, што паспяховымі рэформы бываюць толькі ў тым выпадку, калі вырашэнне пытанняў, якія стаяць перад грамадствам, пачынаюць шукаць на шляхах пашырэння прасторы індывідуальнай свабоды і асабістай адказнасці.

Каму ў сучаснай Беларусі патрэбныя такія рэформы? Гаспадару Палаца Незалежнасці? Няўжо ў яго не хапае дроў для ацяплення кабінета?..

**Пытанне адкрытае**

Каб распачаць рэформы, эліты павінны спалохацца. Пажадана, спалохацца смяротна. Падобная гісторыя, напрыклад, адбылася з элітамі Прусіі пасля паразы ад Напалеона ў 1806 годзе. Тады Прусія страціла палову насельніцтва і тэрыторыі. Каб выжыць, давялося стварыць масавую прызыўную армію, а для гэтага — вызваляць прыгонных сялян, што, у сваю чаргу, цягнула за сабой цэлы шэраг пераўтварэнняў.

Аднак яны акупіліся сто разоў. Зразумела, не праз год і не праз два. У 1866 годзе, падводзячы вынікі аўстра-прускай вайны, яе пераможца Ота Бісмарк нібыта сказаў: «*Войны выйграюць не генералы, войны выйграюць школьныя настаўнікі і парафіяльныя святары*», — гэта значыць, тыя людзі, якія занятыя фарміраваннем асобаў.

Ці на самай справе прамаўляў «жалезны канцлер» гэты панегірык на адрас настаўнікаў і святароў або аўтарства яму прыпісалі — цяпер ужо ўсё роўна. На іх актуальнасць гэта ніяк не ўплывае.

Расія ж з вайны з Напалеонам выйшла пераможцай. «*І пакуль немцы клалі шпалы і ўзводзілі домны*, — тлумачыць журналіст Канстанцін Гайвароўскі, — *Мікалай І з замілаваным захапленнем пісаў пра Расію, "якая ідзе смела, ціха, па хрысціянскіх правілах да паступовых удасканаленняў, якія мусяць на доўгі час зрабіць з яе наймацнейшую і найшчаслівейшую краіну ў свеце"*». Вось так ціха і дашкандыбалі да паразы ў Крымскай вайне. Цяпер ужо Расія атрымала той «выспятак, што падбадзёрвае», які далі прусакам на паўстагоддзя раней.

Без выспятку, што падбадзёрвае, разлічваць на рэформы не даводзіцца. Але ці стане перавод беларуска-расійскіх адносінаў на рынкавыя прынцыпы такім выспяткам — пытанне адкрытае. Калі не, дык давядзецца чакаць наступнага разу.

**Імя гэтага працэсу — РЭ-ВА-ЛЮ-ЦЫЯ**

Прыгадаем перабудову. Яна пачалася не праз капрызы канкрэтнага чалавека, хай і надзеленага неабмежаванай уладай, і не пад уплывам інтрыгаў Ракфелераў-Ротшыльдаў. Пасля «гонкі на лафетах» усведамленне, што так далей жыць нельга, апанавала ў Краіне Саветаў усіх. А тут яшчэ цэны на нафту ў шэсць разоў абваліліся.

Склалася сітуацыя, калі не мяняць і не мяняцца было ўжо немагчыма. Неэфектыўнасць сістэмы, якую «будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі», стала відавочная не толькі для будаўнікоў, але і для архітэктараў.

Але тое, што планавалася ў якасці сістэмы рэформаў, як справядліва заўважыў палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, вырадзілася ў «*набор сутаргавых хаатычных спробаў існуючай улады выратаваць сістэму ад краху — пры поўнай адсутнасці ўсведамлення краху гэтай сістэмы на першым этапе перабудовы, калі здаецца, што ўсё лёгка і весела: "больш дэмакратыі — больш сацыялізму"*».

Вось такая праблемка: пакуль крах яшчэ не здарыўся, эліта неабходнасці рэформаў не адчувае, яна распачынае рэформы, калі ўжо позна. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што сітуацыя імкліва пераходзіць у стадыю «працэс пайшоў», г. зн. пайшоў самастойна, незалежна ад намаганняў эліты. Імя гэтага працэсу — РЭ-ВА-ЛЮ-ЦЫЯ.

Згодна з эканамістам Яўгенам Гантмахерам, «*рэвалюцыя — гэта доўгі перыяд бязладдзіцы, гэта перыяд, калі не забяспечваецца законнасць, перыяд, калі не збіраюцца падаткі, калі дзяржава не можа выконваць свае функцыі*». Дадам ад сябе, дакладней, не ад сябе, а ад АП: «*Рэвалюцыя — гэта калі ўлада валяецца ў брудзе*».

* * *

Школьны настаўнік забяспечваў перамогі прускаму «жалезнаму канцлеру». Унёсак беларускага настаўніка ў перамогі АП не меншы, і ўнёсак гэты не абмяжоўваецца працай ва ўчастковых выбарчых камісіях.

Школьны настаўнік — прадстаўнік сацыяльнай эліты, чыя задача палягае ў перадачы практычных узораў паводзінаў з дапамогай прафесійных камунікацый. Калі ў арсенале настаўнікаў сёння мат і рукапрыкладства, дык што нам варта чакаць ад іх учорашніх вучняў, а цяпер «касманаўтаў» у ахоўных шлемах ды ўзброеных дручкамі?

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЗАПОЗЬНЕНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА

# ЯК ЛУКАШЭНКА СПРАБУЕ ВЫПРАВІЦЬ УЛАСНЫЯ ПАМЫЛКІ

**Аляксандар Лукашэнка правёў чарговую нараду наконт галоўнага сёньня беларускага пытаньня — нафты. Прагучалі новыя нюансы.**

Перад самай нарадай адбылася зьмена віцэ-прэм'ера, які адказвае за нафтахімічны комплекс. Лукашэнка застаўся незадаволены працай у крызысны пэрыяд былога чыноўніка, які займаў гэтую пасаду, — Ігара Ляшэнкі. Новы віцэ-прэм'ер Юры Назараў — лясьнік паводле адукацыі і прафэсійнай дзейнасьці. Трэба думаць, цяпер нафтагазавая галіна нарэшце запрацуе як мае быць.

Праводзячы нараду, Лукашэнка кінуў рэпліку, што ўраду трэба зьнізіць залежнасьць беларускай эканомікі ад нафты і дывэрсыфікаваць крыніцы эканамічнага росту. Здавалася б, вось зручны момант памяняць структуру эканомікі, зрабіць стаўку на новыя, больш сучасныя галіны. Аднак гэта было сказана мімаходзь. Галоўны акцэнт рабіўся на тое, каб за ўсякую цану вярнуць нафтаперапрацоўцы ранейшую вагу.

Лукашэнка ня быў бы сам сабою, каб не абурыўся дзеяньнямі замежных партнэраў:

«Асобныя дзяржавы зразумелі, што пры дапамозе вэнтыля на нафтавай трубе выгадныя ім пытаньні вырашаюцца значна лягчэй. Ня думайце, што я намякаю тут толькі на Расею... На жаль, нягледзячы ні на якія ўзаемныя абавязаньні, такая практыка стала стасавацца і ў дачыненьні да Беларусі, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Умовы пастаўкі нафты ва ўльтыматыўнай форме ўвязваюцца зь іншымі праблемамі, якія хоча вырашыць краіна-пастаўнік. Адбываецца гэта без аглядкі на дзейную дагаворную базу і прынцыпы пабудовы нашых адносінаў».

Здаецца, тут Лукашэнка меў на ўвазе («ня думайце, што намякаю тут толькі на Расею») Казахстан, таксама хаўрусьніка Беларусі ў ЭАЭС і АДКБ. 2 сакавіка намесьнік міністра гандлю гэтай краіны Кайрат Тарэбаеў заявіў, што Казахстан гатовы пастаўляць Беларусі нафту толькі з мытам. І вось гэта абурыла беларускага кіраўніка.

У выступе Лукашэнкі былі элемэнты таго, што можна назваць больш-менш далёкасяжнай стратэгіяй. Але гэта была не стратэгія структурных рэформаў, пра што шмат гадоў кажуць беларускія і замежныя эканамісты, а стратэгія за ўсякую цану захаваць статус-кво. Яе сэнс у тым, каб унікнуць залежнасьці ад аднаго пастаўніка і рабіць акцэнт на дывэрсыфікацыі, на пошуку «доўгатэрміновых альтэрнатыўных крыніц сыравіны».

«Мы самі вінаватыя, што не дывэрсыфікавалі ў свой час пастаўкі нафты. Манапалізм заўсёды прыводзіць да падобных вынікаў», — заўважыў

**(працяг на стар. 4)**

## ЗАПОЗЬНЕНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА

*(пачатак на стар. №3)*

Лукашэнка. Ён вельмі рэдка прызнае ўласныя памылкі. А вось цяпер прызнаў, хоць і схаваўся за словам «мы». Стаўка на аднаго партнэра, на Расею, прычым ня толькі ў пытаньнях паставак нафты, — гэта сапраўды вялізная памылка і віна Лукашэнкі перад гісторыяй і краінай. Дарэчы, БНФ яшчэ у 1990-я гады прапаноўваў правесьці нафтавы калектар ад Балтыкі праз Украіну да Чорнага мора, каб ня быць поўнасьцю залежнымі ад Расеі.

І вось цяпер Лукашэнка ставіць задачу: «Каля 40%, можа быць, 50% будзем па-ранейшаму купляць нафты ў Расеі (калі Расея захоча), калі канчаткова дывэрсыфікуем. А па 30% можам купляць з партоў Балтыкі і з Адэсы. Гэта будуць тры крыніцы».

І тут ёсьць важны нюанс. Калі пад Новы год сарваліся дамовы з расейскімі кампаніямі і Лукашэнка даручыў ураду шукаць нафту ў іншым месцы, большасьць экспэртаў прыйшлі да высновы, што гэта проста шантаж Расейскай Фэдэрацыі. Маўляў, міне час, памірацца з Расеяй і пра альтэрнатыву забудуць. Магчыма, што насамрэч так і было. Але замірэньне з Масквой не ўдалося, і кіраўнік Беларусі нарэшце гэта зразумеў.

Дык вось цяпер, кажучы пра альтэрнатыўныя пастаўкі нафты, Лукашэнка робіць акцэнт на слове «доўгатэрміновыя» (пагадненьні). «Неабходныя комплексныя і сыстэмныя інфраструктурныя рашэньні. Варта прадумаць магчымасьць рэалізацыі сумесных праектаў з замежнымі кампаніямі — уласьнікамі сыравіны», — кажа ён. І на гэта варта зьвярнуць увагу.

Адным з такіх праектаў, паводле Лукашэнкі, павінна стаць дабудова нафтаправоду да Балтыкі. Існуе стары, з савецкіх часоў, трубапровод, але ён патрабуе рамонту і дабудовы. Лукашэнка прапануе ўзяць танны крэдыт у ЗША (дзяржаўны сакратар Майк Пампэо нібыта сам прапанаваў) і за 1,5-2 гады давесьці гэты нафтапровод да ладу.

**Што ж, як вядома, лепш позна, чым ніколі.**

**Валер Карбалевіч**

## СТАБІЛІЗАЦЫЯ

# СТАБИЛИЗАЦИЯ В НИЩЕТЕ НА СОРОК ЛЕТ?

**«Уже несколько лет не смотрю и не читаю выступления наших официальных лиц, — пишет Александр Обухович в БелГазете. — Достаточно их краткого изложения в СМИ, чтобы понять: решение главного вопроса, ликвидации или модернизации «белорусской модели», пока не рассматривается. А мелкая суета по второстепенным вопросам несущественна».**

…Лет десять назад эталоном падения я выбрал Гондурас - бедную страну Латинской Америки, без значимых запасов полезных ископаемых, обираемую корпорациями США. Пугал читателя, что тенденции развития ведут нас на уровень Гондураса. Казалось, что падение экономики индустриальной Беларуси на уровень Гондураса – предел развала.

Ан нет. В 2018г. ВВП Гондураса на душу населения почти в 1,5 раза больше, чем в Беларуси, а средняя зарплата – $684 в месяц. Говорить о Польше, странах Балтии вообще не приходится, хотя они пережили и деиндустриализацию, и «шоковую терапию», и массовый отток населения. А сегодня имеют и ВВП на душу населения в три-четыре раза выше, чем у нас, и среднюю зарплату в два-три раза выше. Правда, и роль ЕС в их подъеме нельзя игнорировать.

Причем отставание от наших соседей стало катастрофичным за последние 10 лет. Пока мы топтались на месте в рамках «стабилизации». Подтверждая тезис, что для нас стабилизация экономики чисто монетарными методами – это стабилизация в нищете.

То, что нынешний курс на стабилизацию для страны бесперспективен, подтверждают и последние исследования. Нет смысла анализировать выступления представителей власти: в них испуга перед нажимом России и предвыборной агитации больше, чем логики и расчета. Приходится ориентироваться на оценки независимых экспертов.

…Правдоподобно, но обоснований нет. Значительно важнее сегодня серия исследований ИПМ и BEROC. Которые на современном уровне, с применением цифровых моделей проанализировали возможности сегодняшней белорусской экономики. Кратко их выводы сводятся к следующему:

– Экономика страны подвержена системным рискам. Другими словами, ее состояние неустойчиво, любой серьезный удар способен ее обрушить.

– Структура и технический уровень наших предприятий при самых благоприятных условиях способны обеспечить рост экономики страны на 2% в год. Любой серьезный внешний шок приведет к снижению темпов роста на 0,5% в год и больше. Вплоть до обвала.

Становится ясно, что экономика и по структуре, и по техническому оснащению никаких проблем страны решить не в состоянии. Включая главную: сокращение разрыва в уровне жизни с нашими соседями, у которых темпы роста выше.

С чем нельзя согласиться в их анализе, так это с понятием «риск». Которое предполагает, что событие то ли будет, то ли нет. Ряд событий уже наверняка будут, хотя время их наступления точно и неизвестно. Перечислим главные.

1. Структура и технический уровень большинства предприятий гарантируют их неконкурентоспособность. Объемы производства падают и будут падать.

2. Экономика не создает достаточно добавленной стоимости, чтобы содержать имеющийся государственный аппарат. Масштабное его сокращение неизбежно.

3. Россия проводит политику вытеснения импорта. Для нас существенно:

– Правительство РФ приняло решение о закупке 40 тыс. элитных коров, хотя предложение молока на рынке и сегодня превышает спрос. Вытеснять нас будут беспощадно.

– С вводом в действие завода Claas рынка сбыта внутри РФ недостаточно и для «Ростсельмаша». Нас будут выталкивать любым способом. КамАЗ еще в 2011г. заявил, что готов вытеснить с российского рынка МАЗ, в работе несколько проектов по вытеснению МЗКТ. «Ростсельмаш» вводит мощности по производству 10 тыс. тракторов в год.

– Острейший дефицит квалифицированных кадров вынуждает РФ вести охоту за кадрами на всем постсоветском пространстве. У нас забирают от квалифицированных рабочих и цеховых технологов до главных инженеров предприятий.

4. Продолжает нарастать отток кадров из страны. Тенденция общемировая, изменить ее не получится. Но необходима реформа рынка труда и его оплаты: ключевые специалисты не должны иметь стимулов уехать.

Без кардинального изменения экономической модели распутать весь этот клубок проблем невозможно. Уже сегодня реформы принесут большие социальные издержки. Проведение реформ по принципу «куда рука рынка выведет» чревато просто ликвидацией остатков нашей экономики: реформы требуют времени, а наши ниши на рынках и без того под прицелом. С реформами мы и так опоздали лет на пятнадцать, в ряде отраслей их можно уже не проводить – опоздали навсегда.

А если не приступим к делу прямо сейчас, то с течением времени список таких отраслей будет только расширяться.

*(скарочана)*

**https://gazetaby.com**

## ЗАРОБКІ

# «СЫТУАЦЫЯ СТРАШНАЯ»

**Што кажуць бюджэтнікі, атрымаўшы заробкі за люты. Бюджэтнікі абураліся новай схемай выплаты заробкаў яшчэ на пачатку лютага. Міністэрства працы абяцала разабрацца. Свабода пагаварыла зь людзьмі (яны працуюць у бюджэтных і іншых арганізацыях) і даведалася — у сакавіку лепш ня стала.**

З новага году заробкі бюджэтнікам пачалі выплачваць адпаведна з новай схемай. У выніку многія заўважылі, што іхныя выплаты ўпалі. У Міністэрстве працы заявілі, што «большасьць фактаў зьніжэньня заробкаў за студзень пры праверцы не пацьвердзілася». Пры гэтым у ведамстве прызналі, што мелі месца «асобныя факты няправільнага налічэньня».

**«У лютым лепш ня стала»**

Натальля, пэдагог-псыхоляг у дашкольнай установе, расказала, што яе заробак параўнальна з папярэднім месяцам практычна не памяняўся.

«Але параўнальна зь леташнім заробкам розьніца відавочная. У лютым мы атрымалі меней, чым у студзені, хаця не нашмат. Але ў адміністрацыі нам тлумачаць, што коштам нас, спэцыялістаў у дзіцячых садках, дадаюць да мінімальнага заробку тэхнічнаму пэрсаналу.

Таму калі раней я мела надбаўкі за стаж працы, за складанасьць працы, то цяпер усяго гэтага ў мяне няма. Мае грошы, высьвятляецца, налічваюць памочнікам выхавальнікаў, вартаўнікам, каб у іх быў мінімальны заробак. Вось так нам тлумачаць у бухгальтэрыі. У мяне стаж невялікі, але розьніцу я адчула вельмі моцна», — кажа Натальля.

Натальля сказала, што разьліковыя лісты выносіць з працы не дазваляюць. Паводле яе, стаўка псыхоляга — 370 рублёў, а фактычна яна атрымлівае 200-250 рублёў.

«У нас бяз нашага ведама вельмі вялікія сумы забралі на даплаты, а таксама вылічылі „за суботнік“ (адзін працоўны дзень). Але калі палічыць, то „за суботнік“ забралі заробак далёка не за адзін працоўны дзень. Нам пра гэты „суботнік“ нават нічога не сказалі, проста вылічылі па 20-25 рублёў. Мне прынесьлі ведамасьць расьпісацца пра тое, што ў мяне вылічылі. Але я спытала: а што калі я не хачу, калі я хачу выйсьці і адпрацаваць? Мне адказалі, што ўжо вылічылі, а калі я не расьпішуся, то расьпішуцца за мяне».

Паводле Натальлі, у адміністрацыі кажуць, каб пісалі заяву на звальненьне, калі нешта не падабаецца.

«З заробкамі сытуацыя страшная. Мы страцілі ўсё, страцілі надбаўкі. Я вяду дадатковую працу з праблемнымі сем'ямі. У мяне ў калектыўнай дамове запісана, што я за гэта павінна мець 30% ад акладу, але мне іх ніхто ня плаціць. Мне тлумачаць, што на мяне не хапіла грошай. Мы думалі, што ў лютым будзе лепш, але, як паказала практыка, ня стала»…

**«Заробак толькі падае, не расьце»**

Барыс працуе ў «Менскіх цеплавых сетках». Ён кажа, што ягоны заробак упаў параўнальна зь леташнім на сто рублёў.

«Заробак толькі падае, не расьце. Пытаньне — чаму? У мяне выходзіць каля 600 рублёў. А раней было больш. На такую суму не пражывеш. Нам абяцаюць ужо колькі гадоў па 500 даляраў, а ў мяне атрымліваецца 300 і нават меней. Цэны растуць, патрэбы растуць. Я захоўваю свае разьліковыя лісты за два гады і бачу, што заробак у мяне паменшыўся, хаця разрад не мяняўся, усё тое самае. Магчыма, гэта зьвязана з стаўленьнем начальства, бо гэта бюджэтная арганізацыя, прэміі. Выплацілі 65 рублёў за 23 лютага, кшталту такая жаласная падачка да сьвята. Узровень жыцьця падае і правакуе на нейкія пратэсты», — кажа Барыс…

**«Каб зарабляць тыя ж самыя грошы, трэба яшчэ больш працаваць»**

Арцём вядзе гурток у адным з палацаў дзяцей і моладзі, працуе на 0,25 стаўкі. Разам з прэміяй яго заробак складае каля 175 рублёў. Але другі месяц запар яго заробак атрымліваецца меншым на 20 рублёў.

«Гэта тыя грошы, на якія я жыву. Выратоўвае тое, што жыву разам з бацькамі. Але шукаю іншую працу, бо на такія грошы пражыць немагчыма.

Нядаўна ў нас быў пэдагагічны сход, на якім нам тлумачылі, чаму ў нас паменшыўся заробак. Гэта было даволі сьмешна, бо сказалі, што заробак не памяняўся, але памянялася налічэньне прэміяльных. Маўляў, раней прэміяльныя былі каля 16%, а цяпер іх паменшылі да 5%. І каб больш зарабляць, трэба рабіць нейкія мерапрыемствы, нейкую дадатковую працу. Высьвятляецца, каб зарабляць тыя ж самыя грошы, трэба яшчэ больш працаваць».

**www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 15.03.2020 у 18.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.